РЫГОР БАРАДУЛІН

# БЕРВЕНІЗАЦЫЯ

Рыгор Барадулін

Мастацкае афармленне Ю. В. РЫЖЫКАВА.

БІБЛІЯТЭКА «ВОЖЫКА»

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КПБ
МІНСК — 1988



## СЯРДЗІТЫ БАРАДУЛІН

Было б смешна, калі б я пачаў прадстаўляць чытачам Рыгора Барадуліна. Хто не ведае выдатнага нашага паэта, аднаго з найбольш дасканалых майстроў роднага слова? Даўно ўжо і «на вуха» і «на

зуб» праверылі ягоны ядраны радок акадэмічныя гурманы-крытыкі, а нястомныя калегі-перакладчыкі шчодра рассыпалі ягоныя пярліны па халодных і цёплых узбярэжжах і ўзгор'ях далёкіх ад Беларусі краёў. Многія тысячы аматараў паэзіі добра памятаюць, як Барадулін прызнаецца ў любові і ў каханні, як ён сумуе і вандруе, з кім сябруе і спрачаецца, дзе гасцюе і адпачывае. І ўяўляецца ім, відаць, шчыры і абаяльны ўшацкі хлопец з прасветленым тварам і хітравата прыжмуранымі вачамі, з запыленай кайстрай за плячамі, да верху напоўненай звонкімі песнямі, нібы залатымі арэхамі з віцебскіх ляшчыннікаў. Так ужо ён любіць сваю зямельку і землякоў, што гатовы ўсе дзяржаўныя знакі якасці. звезці адусюль дадому. І такія ў яго незвычайныя і пявучыя словы — як жаваранкі з-пад жытняй мяжы...

А ці ж злуецца калі Барадулін, ці гневаецца, ці бурчыць? Ці, можа, лірычна-ўзрушанаму і элегічна-засяроджанаму, яму няма калі быць сярдзітым і незадаволеным, абураным і здзеклівым? Супакою прыхільнікаў сатыры: хапае ў яго і грамадзянскай трывогі і паэтычнага тэмпераменту, каб спляжыць прайдзісвета і паўшчуваць фармаліста, заклікаць да парадку абібока і спыніць несуна, напалохаць падхаліма і падкузьміць кар'ерыста. Рука ў яго пры гэтым па-сялянску цяжкая і нястомная, а прыцэл — па-партызанску дакладны і своечасовы. Да таго ж і «сацыяльны заказ» на ваяўнічае вострае слова не здымаецца з парадку дня: на задымленых шчоках нашага працоўнага бяссоння ўчэпіста кусціцца замшэлае шчацінне застойных гадоў — і асялку галоснасці і дэмакратыі яшчэ нямала давядзецца «правіць» лязо нашых баек і фельетонаў, памфлетаў і эпіграм. Барадулінскія ўмельства і вынаходлівасць, віртуознасць і неўтаймоўнасць прыйдуцца тут вельмі дарэчы...

Вось я і запрашаю вас на сустрэчу з сярдзітым Барадуліным. Паверце, ён і ў гэтым сваім настроі таленавіты і самабытны, як заўсёды.

**Генадзь БУРАЎКІН.**



## ЦІХІ МАНАЛОГ

Не трэба мне падтрымка,
Магу сама трымацца я,
Я — пані ананімка,
Крыніца інфармацыі.
А кожнаму з крыніцы
Напіцца нецярпіцца.
А ўжо якая ў ёй вада,
Зусім размова іншая.
Нячутная ў мяне хада,
Як постаць ананімшчыка.
Мой стрэл бязгучны,
Разрыўны,
З якога доўга перуны
Не цішацца,
І, ўвогуле,
Ідзе далёка водгулле.
За кожным подслух і падгляд
Замеціць шчыры клопат,
Скажу, хто з кім,
Хто над, хто пад.
І не спадае попыт
На ананімкі,
Даўні ён.
Калі прысніў паганы сон
Прапрашчур у пячоры,
Уваласелы ў горы,
Схацеў накрэсліць на скале
Усё пра супляменніка,
Ды першая на ўсім чале
Хітрынка легла тоненька,
За галавешкай дымкаю,
За першай ананімкаю
Схаваўся
І ў куродыме
Растаў ва ўласным одуме.
Як гэта ўсё даўно было,
Забыліся пячоры.
Першанаіўнасці крыло



Абскублена на пёры,
Ды не зваліся скарбы
За ноч чарнейшай фарбы.
Мяне баяцца,
Бо магу
Любога ўзяць за глотку,
З прагрэсам я іду ў нагу,
Мне плётку —
Злую цётку
Прымаць няёмка за радню —
Крычыць,
А я за цішыню!
Ты паспрабуй мяне крані,
І не захочаш болей.
Мае глыбока карані,
І дасягае голле
Ажно да тых паверхаў,
Ды не ў пашане вэрхал.
Паперкай сціплай лягу,
Гара пачне ўздымацца.
Я праганяю смагу,
Крыніца інфармацыі!





**ЧАС!**

— Не падмажаш — не паедзеш,
Не ўкрадзеш — не пражывеш! —
На хаду складае верш
Лэдзі з сумкамі,
Але дзе ж
Голас супраць?
Не чутно.
Гэтак сунуцца лацно
Калыхлівай калымазе.
Змазаная добра вось
Не скрыпіць —
Кладзі, вынось,
Хто ў адвазе,
Не ў адказе
І ў канторы,
І на базе,
І на вузкім пералазе.
Ад станка,
Ад бараны



Крадуны і беруны,
Краллі, браллі
Не драмалі,
Вуха старчаком трымалі.
Гэтак ехалі,
Жылі
Кватаранты на зямлі.
І каціласе хоць нехаць
Калымага праз гады.
І даехаліся,
Ехаць
Больш ужо няма куды!

Пакаталіся на славу,
Час расплавіць снежны ком —
Ездакоў садзіць на лаву,
Калымагу
Гнаць на злом!





## АДЗІНКА

На пачатку сціплая,
Быццам невідзімка,
Ва ўстанове выплыве
З ніадкуль адзінка.

Лічба не вялікая,
Першая па ліку,
Гора не наклікае —
Будзе для прыліку!

Не растане, ціхая,
Як вясной ільдзінка.
На пячатку дыхае
Новая адзінка.

Покуль непрыкметная,
З ёй няма пытання.
Лета пералетуе
І зіму застане.

Выпадак знагодзіцца,
Цёплая мясцінка
Зрэшты ёй
знаходзіцца —
І ўсплыла адзінка!

Пёрак шмат парыпвае,
Шэпт ідзе на лямант.
Быць даволі сціплаю —
Абрасла нулямі!

Не чапай адзінку,
Бо наробіць дзынку,
Заспявае:
— Ой, люлі,
Без мяне вы ўсе —
Нулі!



## БЕРВЕНІЗАЦЫЯ

Ідзе урбанізацыя
У наступ зноў і зноў,
А ўслед
Бервенізацыя
Паважных устаноў.



Абуй руку пальчаткаю,
Разуй — усё адно,
Пагрукайся —
З пячаткаю
Сустрэне бервяно.

Абчэсаны, абкораны
Сядзіць таварыш дуб,
А падапруць падпорамі,
Бач, бервяно ўжо слуп.

І тут жа слуп становіцца
Правадніком святла.



Чыновіцца, ўстановіцца
Былы жыхар сяла.

Лясоў дрымучых менее,
Ды ўсё,
Аж стогне дол,
Дрымучымі бярвеннямі
Абкладзена наўкол.

Бярвенне ўсё смалістае
Павязана ў плыты,
І на ўраганах выстаіць,
Запыніць вір круты.

Стамілася авацыя,
Хвала сваё пяе.
Ідзе бервенізацыя.
Чым замяніць яе?



## НЯЎЛОЎНЫ БУМЕРАНГ

Па гарах і па марах
Днём і ўноч
Любой парою
Скача ўзлётна бумеранг,
Думка хітрага настрою.

Што адгор'е,
Што скала?
Ты размах бяры крытычны.
Лепш лунае за арла
Бумеранг бюракратычны.

Да высокага стала
Скаргу грозна як ні шваргай,
Вернецца,
Як і была,
Непачутай тая скарга.

Бюракрат, не як баран
На вароты, на заяву
Пазірае.
Бумеранг
Вырашае лёгка справу.





І ляціць, ляціць адказ
Бумерангам адмысловым
Ад кіраўнікоў да мас,
Каб назад вярнуцца словам,

Што як верабей-пырхун
Абначуе ў пратаколе.
Трапятун і дзед-пярхун
Пра сякое, пра такое

Будуць баіць дзень пры дні,
Дбаць пра ўкосы, пра пасевы.
Ля сталоў,
Як пень пры пні,
Цесна прывіды паселі,

Прывіды канкрэтных спраў,
Дзеці ўказаў,
Цыркуляраў.
Бумеранг усіх сабраў
І пячаткай атаварыў.

Над нязрушнасцю пасад
Бумеранг успомніць рухі
І, нязлоўлены,
Назад
Зноў трапляе ў тыя ж рукі.



## НЕСУНЫ



Несуны —
Не пеўні тыя,
Што на казачнай зямлі
Раптам шчодра залатыя
Яйкі несці пачалі.

Як жылі калісьці ў лесе
Дзеці казак —
Лесуны,
Так у сённяшнім прагрэсе
Завяліся несуны,
Прагавістасці сыны.
Несуноў прагрэс прыгрэў,
Валяць лес,
Даволі дрэў!

Хутка новая парода
Распладзілася сама.
У цябе чаго няма,
У запас нясі з завода,
Лёгка несці,
Бо дарма!



І нясухі,
Што квактухі,
Захінаюць пад крыло,
І нясуць ва ўсе аддухі,
Каб кубло
Паўней было!

З-пад зямлі,
З вады,
З-пад даху
Як падняць і пакрысе
У рашучасці і ў страху
У разгулістым размаху
Усе нясуць
І ўсіх нясе
Плынь здабытлівай ракі.
Прэч з дарогі,
Дзівакі,
Вы, якія на зарплату
Жывяце ва ўсе гады!
І нясуць усе —
Сват свату
І сусед суседу ў хату
Важкай радасці пуды.



Як захочаш смачна есці,
Жыць,
Не лічачы грашы,
Прымудрышся спрытна несці.
З любым рай і ў гаражы!
І нясеш, і весела
Ад любога несіва!
Добра хцівасці на волі!
Як пад небам па страсе
Прэш,
Чаго ў цябе даволі,
Пранясеш,
Як пранясе!

І праносіць,
Покуль носіць
Дрэмнавокасць несуноў,
Няньчыць, быццам пестуноў.
Аславуха спалі —
Досыць!
Прачынацца час ад сноў!





## ШАПКУ З БАБРА ПРЫМЕРВАЮЦЬ...

Лагодна добры досціп кпіў,
Калі ні ў тры, ні ў два:
Раз бацька шапкі не купіў —
Хай мерзне галава!

А галава панікла над
Кіруючым стáлом,
Заяў і скрагаў лістапад
Заціхне пад сукном.

Пасадных воч
Патухне бра,
Ды не ад скразняка.
Каб галава
Ды без бабра
Была ў кіраўніка!

Бяры ў ахапку шапку —
й прэч.
Старацца будзь дабёр.
Бабру таксама не пярэч,
Каб сам на шапку пёр!



Бабёр купаецца ў рацэ,
Дае нырца на дно.
Ягоны хвост яшчэ ў лусцэ,
Бабру няўцям адно:

Са шкуры,
Што на ім яшчэ,
Пашылі шапку ўжо.
Луска блішчыць,
Рака цячэ,
Яшчэ вісіць ружжо.

Ды ў падначаленай не быў,
А ў шкуры жыў сваёй,
Разліў
Хіба што меў уплыў,
Змяняў бабру настрой.

Як без бабровай шапкі быць
Кіраўніку ў саку?
Па шапцы галава свярбіць,
Як лоб па гузаку!





## ДЭФІЦЫТ

Калун з уладай абуховай,
За злосць чарнейшы антрацыт
Слабыя перад выбуховай
Той сілай,
Што ў сабе прыхоўвае
Цяжкое слова
Дэфіцыт.

А сіла гэтая зямная,
Як рэпа цёплая з грады,
Яшчэ такую ўпартасць мае,
Што ў рух прыводзіць гарады.

Па-спажывецку не тупая
Вярэдзіць думка апетыт.
Чаго, здаецца, не хапае,
Усё завецца —
Дэфіцыт.

Ёсць жонка,
Ды калі б другую
Узяць,
Адчуў бы новы смак.
І муж не спіць,
І муж мазгуе,
На дэфіцыт бы ўзбіцца як.

Бяжыць, мяняючы аблічча,
Сам дэфіцыт,
Наняўшы спрыт,
Старыя прыказкі і прытчы
Зашанавалі дэфіцыт:
«Ідзі малаціць,
Ціт,
Пайду,
Як дадуць дэфіцыт».






Стаў кажушок
Дублёнкай звацца,
Ранг дэфіцыту ўраз набыў.
Ад аплявух
Ці ад авацый
Запал аж мазалі набіў.

Уросшы ў тлусты грунт
Карэннем,
Прывычкам не звыкаць маніць.
Заняты дэфіцыт хаценнем
Сумленне ўменнем замяніць.

Яно прыемнае смаленне
Падсвінка з хлеўчука выгод,
Ды востры дэфіцыт сумлення
Расці павінен з году ў год!

Не спадзяваліся на крамы
Пасляваеннае пары,
Насілі джынсы з шарачка мы,
Пафарбаваныя ў кары.

Я разумею, маладыя
Рукой махнуць:
— Стары вярзе!
Даўно сплылі часіны тыя,
Калі душыліся ў чарзе,

Каб на стале была скарынка,
Хоць чэрствая,
Але была.
Свяцілася ў душы іскрынка
Да шчасця прагнага святла.

Клапотамі — жывыя людзі,
Турботамі жыве жытло.
А дэфіцытам хай не будзе
Неачарсцвелых душ святло!



## ЭТАПНАЯ ПАМЯЦЬ

Не трэба ні петрыць,
Ні кеміць, ні цяміць,
Ні тумкаць, ні дукрыць,
Ні дбаць, ні шурупіць,
Адно, што патрэбна, —
Этапная памяць
Патрэбнага ўспомніць
Тады, калі рупіць.

Пакуль пры пасадзе сябрук,
Як пры ступцы,
Таўчэ таўкачом самалюбства
Выгоды,
Яго паважай —
На вышэйшай прыступцы
Стаіць
І не чыніць табе перашкоды.

Пачне апускацца, як роўня,
Адразу
Ты стань незалежным,
Крыштальна-сумленным,
Лічы за нявыхаванасць,
За абразу
Здароўкацца першым
З былым незаменным.

Ступай па знаёмых,
Сябрах,
Як па трапу,
Угору дзярыся
Упарты, старанны.
Дзе трэба,
Пацісні дагодліва лапу.
Зрабіся такім,
Хоць прыкладвай да раны.



Нічым ты не грэбуй,
Як трэба — пад рэбры
Давай, каб не змог
Твой апомніцца вораг.
На новым этапе
Ўжо новы патрэбны
Дружбак, што расціснe
Злаcліўца на твораг.

У возе жыцця
Ты лічы сябе воссю,
Дзе круціцца лёс,
Нібы кола ў нахрапе.
Бадзёр сам сябе
І да часу не бойся
Забытым застацца
На пэўным этапе!



## ПРА РУКІ

Хоць маеш болей рук,
Чым Шыва,
Ты ўсё ж бязрукі,
Як рукі
Не маеш той,
Што робіць дзіва.
У дрэва —
І ў таго сукі,
Каб утрымацца,
Ухапіцца.
Ты зможаш шмат схапіць,
Як сам
Упрэшся, тое дрэва быццам,
Дзе цесна на ствале сукам.

Рука руку, вядома, мые
З балотца,
З крана,
З раўчука.



Ды рукі чыстыя нямыя,
Адна касматая рука
Пачутым голасам гаворыць,
Зацяўшы моц у кулаку.
Рука такая
Цуды творыць,
З рукі
Мецъ гэткую руку!

І ўсё ручыць,
Ідзе рукою,
Калі касматая рука
Зарукаю твайго спакою
І спадарожніцай рыўка
Па коўзкай
Лесвіцы службовай,
Дзе ўслед ступаюць сінякі.

Ты сілу волі выпрабоўвай,
Як застанешся без рукі,
Без неабходнай,
Валасатай,
Якую могуць пагаліць
Зайздроснікі,
Ды момант сватай,
Калі каго каму
Хваліць.

Па-першабытнаму касматай
Рукой,
Калі такая ёсць,
Няўдачы горкай
Горла кратай,
Уласную ўцвяліўшы злосць.

І селім робатаў па хатах,
І даганяем зорны гук,
А ўдарыць па руках касматых
Усё нам не хапае рук!



## КЛОПАТЫ

Як заўсёды двое,
Дружбакі ў мінулым,
Так пра тое-сёе
Рупяцца агулам.
Абмінае зоры
Тэма бытавая.
Больш адзін гаворыць,
Як даклад чытае:

— Кажаш, тая ж праца
І сям'я ўсё тая.
А мяне, прызнацца,
Лесвіца крутая
Падымае строма,
Бо не з краю хата.
Шмат турбот, вядома,
Грошай малавата.

Жонка з тонкім густам
Ды яшчэ прыслуга.
І дзяцей не густа,
А бывае туга.

Смех —
Твае няўдачы,
Клопат твой мышыны.
Ні інтрыг, ні дачы,
Ні ў цябе машыны!
Ты яшчэ пры моцы,
Браў жа маладую...

Слухае прамоўцу
Сябра
І шкадуе.

## ДЗЯДЗЬКА З ЦЕТКАЙ




Любіць лёд не раставаць,
А шчупак нераставаць
І цвяліцца з лёскай,
Дзядзька-горад жартаваць
Любіць з цёткай-вёскай.

Варушыць мазгамі звык
І расці ў нябёсы,
Робіць горад-чараўнік
З вёскаю дзівосы.

Не мядзведжай адплаціць
Хоча ён паслугай—
Адыначыць, адпладзіць.
Паглядзі, паслухай!

Сын сядзіць кум-каралём,
Нібы ў снах вясёлых,
Хата бацькава з рулём
Коціць новым «жыгулём»
На гумовых колах.

Агурочкі-парсючкі,
Што раслі пад плёнкай,
Сталі футраю ў дачкі,
У зяцька дублёнкай.

І свіння з канца сяла,
Што расла на сала,
Свацці шыю абвіла,
Чарнабуркай стала.

А кальє баравікоў,
Шнур цыбулькі-дымкі
Да дзябёлых едакоў
Пад прыскокі кадыкоў
Трапілі ў абдымкі.



На газонавай траве,
Ля кафэ, кіёска
Рохкае,
Вішчыць,
Раве
Вёска, вёска, вёска.

Са старых да новых дзён,
Бач, як дзядзька з цёткай
Размінаюцца здавён
Сцежкаю кароткай.



## КАРЫСЦЬ

Не прызнае прызнанне асцярогі,
Дарэмна сарамлівасць хмурыць бровы:
Мужчыну пры заслугах
Трэба рогі,
Каб з галавы не ўпаў
Вянок лаўровы.





## З НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЫ

Як не цягне на спачын,
А мужчынскі гонар ляснуў,
Пэўны сродак ёсць адзін —
Пантакрын
З рагоў уласных.





## НОВАЯ МЯТЛА

А новая мятла
Па-новаму мяце
І без хістання.
Сшаруецца датла,
Пабудзе на куце,
Гальнём у вугал стане.





## ПАЦЕЦЬ КАРЫСНА

Ён стане неабходна-блізкім,
Хто мае славу пры жыцці.
Пацее,
Каб зрабіцца слізкім,
А слізкаму далей паўзці!



## БЫВАЕ

— Не мастак я прыдумляць, дружбак,
Праўда, каб я гэтак быў здароў. —
Бачыў на сваім вяку сабак
Разумнейшых за гаспадароў.
— Што шукаць сляды па цаліне,
Быў сабака гэтакі ў мяне!





## ІМГЛАТЭРАПІЯ

У медыцыны іголкі тупыя,
Рэўнасць пякельна
Кіпіць у смале.
Лечыць найлепей
Імглатэрапія —
Вочы прывабней гарацць у імгле.



## ПРА ЦІХАСЦЬ

**Не бойся ліхога,**
**А бойся ціхога.**

*Народная парада.*

Сябе самога любіць глуха,
Ён не храпе,
І ў сне сапе,
І ціха ўсё бярэ сабе—
Чуваць,
Як пралятае муха.

Рагочуць досціпы старыя,
Што ціхі лыч
Глыбока рые.





## СЦЭНА З МІНУЛАГА




Аж малаток ірваўся з рук,
Трунар біў з усяго пляча.
Ды гэта быў
Той першы стук,
Які не цешыў стукача.

## З КУХОННЫХ ПАРАД

Капрызны начальнік, як чорная кава,
І можа ён злосцю за злосць адплаціць.
Яго да кіпення давесці цікава
І — не кіпяціць.





## ЧАМУ?

Загоніш авечак сумнення ў хлявы,
Крывая з роўнай смяецца вярста.
Чаму гэта рыба гніе з галавы,
А чысцяць яе з хваста?



## ПА ДАРОЗЕ Ў ГОСЦІ

Прадраўшыся з бузы,
З трысцяя
З намерам піць і есці,
Карась падаўся да цясця
І апынуўся... ў цесце!





## АШЧАДНЫ

Жывому было яму ўсё няўцям,
І сам зеляней з-за капейкі меднай.
Памёр —
І ўсе спачуваюць чарцям:
З ім пекла зробіцца
Апраметнай!



## МАДОННЫ

Мадонны —
Нашыя сучасніцы,
Вы ля кароў,
Вы ля станкоў.
Надоем, планам
Вочы ясняцца
У вас на палотнах мастакоў.



Багатыя рэкордна
Пафасам,
Не згубіцеся вы ў вяках.
Пакуль мужы
Ваююць з Бахусам,
Мадонкі плачуць на руках.

Даводзіцца і мужа любага
Не толькі няньчыць —
Валачы.



Лёс тое, што ласей, абскубвае,
Нібыта лось
Стагі ўначы.

І МАЗамі багататоннымі
Усіх вашых не падняць турбот.
І над пралётамі бетоннымі
Вы ластаўкамі —
Не мадоннамі
Стараецеся з году ў год.

У чэргах з сумкамі,
З бітонамі
Чакаеце,
Надыдзе час —
Не толькі назавуць мадоннамі,
А ў клопаце
Падменяць вас!





## ПУСТЫШКА

Сысунку-ласунку
Да спадобы,
Дзецюку-мацаку
Ад хваробы,
І старому псюку
Для аздобы.

Аж да цёмнай канчыны
Ад зіхоткай успышкі
Рукі цягнуць мужчыны —
Не хапае пустышкі.
Серабраць і залоцяць,
Прагна смокчуць, сулоцяць
Маладую пустышку
У застоллі, ў зацішку,
Прачытаўшы меню,
Паглядзеўшы афішку.
Быццам порах агню,
Просіць кожны
Пустышку!

Варта мрою вітаць
У чароўнай паставе.
Бо пустышка, відаць,
Не такая пустая!





## МОДА

Мяняецца пагода
Зімой, вясной і летам.
Змяняцца любіць мода
І мы за модай следам.

Мядзведзь ля той калоды,
Дзе смачна пахне мёдам,
Жанчыны ля камоды,
Дзе стала цесна модам.




А мода ўсё гуляе.
Спяшай, па моду падкі, —
То ногі агаляе,
А то хавае пяткі.

То на маўчанне мода,
То на крычанне мода,
То ад імя народа
І згода, і нязгода.

Спазняецца заўсёды
Прыхільнік моды шчыры,
То весела ад оды,
То сумна ад сатыры.

То дурань у пашане,
Разумны у загоне,
То самі мчацца сані,
То ледзьве цягнуць коні.

Якія ў модзе вочы,
Якія ў модзе бровы?
Кароткі век дзявочы,
Закон жыцця суровы.

Змяняюцца світанні,
Змяняюцца стагоддзі,
Нязменнае каханне
Непадуладна модзе.

Не модна анікому
Быць аднаму на свеце.
Кахайце па-старому,
Абы вяліся дзеці!





## СЯМЕЙНА-КАСМІЧНЫ ДЫЯЛОГ

— Апошні раз спачуванне малю,
У стане бязважкасці быў я ўчора.
— Спускайся ўжо з космасу на зямлю,
А то завяду маладога дублёра!



## З ПАРАД МАЛАДЫМ

Спачатку стаць сакратаром
І першым па магчымасці
(Няважна, потым з чым ісці!),
Пад будучы музей кватэру
Прабіць,
Пасля цвяліць паперу
Ільсняную тупым пяром.
Каб не забыцца,
Паўтары:
Прабіцца
У сакратары
Пад будучы музей кватэру
Прабіць,
Пасля не страціць веру
Ў сабе,
Што выбіўся ў майстры.
Прывёзшы з Азіі паласік,
Хадзі паважна,
Быццам класік.
Прызнае жонка,
А пасля
Сябе ўключай,
Як той прыёмнік,
Вяшчай, вішчы,
А там і помнік
Папросіць родная зямля.
Запомніў, значыць—
Малады,
Не адхіляйся ад праграмы,
Смялей да трыумфальнай брамы
Ідзі, не чуючы бяды,
Заблытвай сам свае сляды.



## НЕ З ТАГО КАНЦА



Дзіўлюся са сваіх калег-паэтаў,
З іх кожны ціснецца
Хадзіць у першых,
І першаму скілзаць вянок санетаў,
І першаму цягнуць раман у вершах.
А час глядзіць з усмешкай мудраца:
Чаргу займаюць не з таго канца!

## ЧУЖЫМІ КЛЕЦКАМІ

Добры верш перакладзі,
Ледзь памець «паводле» ў дужках.
Сам у аўтарах хадзі
Пры кармушках Музы ў служках.
Будзеш да сівых гадоў
І пры імі
І ў рэжыме.
Памінаць сваіх дзядоў
Добра клёцкамі чужымі!





## ХАЦЕННЕ

На вярбіне выраслых ігруш
Ён любіць прысмак
Саладжава-даўкі,
Інжынерам чалавечых душ
Хоча працаваць
Хоць на паўстаўкі.



## САМАЕДЫ

Свет чумы такой не ведаў,
Аж хістаецца зямля,
Гэта племя самаедаў
Стала множыцца, як тля.

Самаеда самаед
Запрашае на абед.
Хто спрытнейшы з самаедаў,
Той суседам паабедаў.

Болей еш —
І болей месца
Ля карыта будзеш мець.
Заглынай, калі не есца,
Мець,
Каб першаму паспець!

Еш чужых, кусай хутчэй,
Жуй, не жмурачы вачэй,
Еш з падэшвамі, цвікамі,
І закусвай сваякамі.

Не бывае неядомых,
Дык вылазь з гразі ў князі,
Еш вядомых, невядомых,
І начальніка грызі.

І сямейны ўзяць падрад
Самаед руплівы рад:
Жонка, дзеці, бацька, маці —
Будзе харчу ў роднай хаце!

Ёсць у маладога племя
Шмат няз'едзенай радні.
І нагу шукае стрэмя,
Племя змалку на кані.





Ці настане гэткі міг,
Што з'ядуць усіх саміх
Самаеды-ненажэры
Не на тайнае вячэры?!



## ГРУГАНЫ

На пенсіі,
Як на праталінцы
Пражорлівыя груганы,
Сыцеюць берыеўцы, сталінцы —
Сыны маны,
Паны віны.

Харчы
У груганоў законныя,
За чорны спіс паслуг яны.
Таксама, як харчы,
Казённыя
Ахвярагубцы-груганы.

Шануюць душамі глюгатымі
Святы для іх,
Падвальны змрок,
Дзе шчыра працавалі катамі,
Давалі каінаў зарок.

Былі да кожнага прыстаўлены,
Хто не ў нагу падумаць мог
І ў сне не так сказаць пра Сталіна —
Тварца ўсіх нашых перамог.

А ворагаў глыбока ў корані
Прывыклі бачыць слугачы.
Хапала месца ў «чорным воране»
Усім
І ў чэраве начы.

На месца двухгалова-царскага
Арла
Паселі груганы,
Каб імем гневу пралетарскага
Заліць жудою шар зямны.

Аднагалова-аднадушныя
Адзін выконвалі загад—





Каб душ як больш
У турмы душныя
Перасяліць
Пад засень крат.

І новы, наш
Быў свет знявечаны,
І руйнаваўся да асноў.
І прагла свежай чалавечыны
Глухое горла груганоў.

Цяпер яны цішэй за агнецаў,
Стараліся ў імя дабра.
Але рука дагэтуль цягнецца
Туды, дзе вісла кабура.





## ЗАЛАТАР

За колер не любіў халву,
Не ціснуўся ў святыя.
Меў залатую галаву
І рукі залатыя.

На ўсю раскошу залатар
Глядзеў зусім не бедна,
У весніх думках залятаў
Глыбока адпаведна.

Пакуль даверылі чарпак,
Стараўся на падхопах.
І сівярэлі на вятрах
Далоні не ў падкопах.

З-пад пастаментаў
Хітры жвір
Не гроб у перапудзе.
З такім, як ён,
І ў пір, і ў вір,
І ў добрыя людзі.

Па хорамах і алтары
Жыве ашчаднасць з рэшты.
А нехта ж
І ў залатары
Ісці павінен зрэшты!



## ЛОБ АДВЫКАЕ БІЦЬ ПАКЛОНЫ

Адно казаць, другое думаць
Нас прыручалі з году ў год,
І асланялі тлум і тлумасць
Паняццем радасным
Народ.

Пяклі парадаў караваі
Народныя апекуны,
І роўнаю была крывая,
Што вызначала рост маны.

Ды арыфметыка ва ўжытку
Была ў людзей,
Яна жыве
Са школы —
Два пісаць у спытку,
А пяць трымаць у галаве.

І столькі ў галаве трывала
Народ трымаў усе гады,
Пакуль чыноўніцтва драмала,
Выпешчвала свае зады.

Аралі, жалі языкамі
Часовыя правадыры,
Народжаныя слепакамі
Прасіліся ў павадыры.

І ціха кпіў народ відушчы
З сляпых сваіх павадыроў.
Хаваўся смех хітрушчы
ў пушчы.
Чым лес цямней,
Тым болей дроў.





І дроў багата наламалі,
Аж задымілі далягляд,
Дзе ясныя ўжо ззялі далі
І дом узводзіўся з цытат.

Нарэшце,
Праўда — хлеб надзённы,
Не лустка сала на нажы.
Лоб адвыкае біць паклоны.
Смялей, што думаеш, —
Кажы!

## ПОЎНАЧ, ТРЫЦЦАЦЬ

## СЕМЫ...

**Перайманне М. НЯКРАСАВА**

Харона замучыла сцюжа і стома,
Бо ў царстве Аіда
Ні планаў, ні зім...
— А людзі адкуль жа?
— З тайгі ўсё, вядома,
Там б а ц ь к а сячэ,
Я адвожу за ім...





## УЗАЕМААБАРОНА

Ён гонар вяртаў свой
Або раняў
І званне вучонае абараняў.
Цяпер ён бароніць
Пасаднае крэсла,
А крэсла бароніць
Свайго седака,
Каб крытыкі злосназайздроснай
Рука
Персонную пыху яго
Не растрэсла.



## МАНЕКЕНЫ

Манекенаў манекен
Запрашае на нараду,
Як у час вялікіх змен
Захаваць пасаду, ўладу, —
Без дагляду ад пасады
Застануцца толькі ляды.

Кемны кожны манекен
Робіць жэсты, кажа словы,
Кінуць, як у сыр той кмен,
Кожны рэпліку гатовы.
Ад грунтоўнае прамовы
Аж хістаюцца галовы.

Як дзядоўніка гарод,
Нагарод
Не месцяць грудзі.
Манекены за народ,
Манекены тыя ж людзі, —
Вянуць толькі ў перапудзе,
Ці пасад усім ім будзе.

Прымацуюць да карыт —
Не паміраецца лычамі.
Манекену трэба спрыт,
Манекен не спіць начамі —
Раптам лёс,
Як шэф з ключамі,
Сейф выгод замкне са снамі.

Згодніцка-чыноўны код
Захаваюць доўга гены.
З году ў год
Прывычны ход
Да брані трыбун,
На сцэны.
Чалавек не вечны, тленны.
Даўгажылы — манекены!






## ПАВЕТРАНЫ ШАР

Ад матчыных пухавікоў,
Ад поліўкі і ад булёна
У кулакі рухавікоў
Нас белы свет бярэ шалёна.

Сямейны нам не ў смак сянаж,
Мы на зялёны луг —
Бычкамі.
І ў дзень,
Што помніць пашпарт наш,
Знянацку робімся бацькамі.

Гадуюць жонкі немаўлят
І нас, нібы цялят,
Гадуюць
І свой дакорлівы пагляд
Для сумнай гутаркі рыхтуюць.

Аднойчы,
Быццам з распашонак,
Мы вырастаем з нашых жонак.
Дай волі,
Як жывой вады.
З-за воблак
Вабіць іншы воблік.
Ірве развагі павады
Прыстойнасці рахманы волік.

Было каханне, не было?
Нам дом былы
Малы, як кокан.
Смялей выпростваем крыло
І — на святло
Нядрэмных вокан.

Перасякаецца прамая,
А потым што —
Ці чад, ці жар.

І неадумнасці цяжар,
Як шар паветраны,
Трымае...





ЗМЕСТ


Ціхі маналог . . . 5
Час! . . . 7
Адзінка . . . 9
Бервенізацыя . . . 10
Няўлоўны бумеранг . . . 12
Несуны . . . 14
Шапку з бабра прымерваюць... . . . 17
Дэфіцыт . . . 19
Этапная памяць . . . 21
Пра рукі . . . 23
Клопаты . . . 25
Дзядзька з цёткай . . . 26
Карысць . . . 28
З народнай медыцыны . . . 29
Новая мятла . . . 30
Пацець карысна . . . 31
Бывае . . . 32
Імглатэрапія . . . 33
Пра ціхасць . . . 34
Сцэна з мінулага . . . 35
З кухонных парад . . . 36
Чаму? . . . 37
Па дарозе ў госці . . . 38
Ашчадны . . . 39
Мадонны . . . 40
Пустышка . . . 42
Мода . . . 43
Сямейна-касмічны дыялог . . . 45
З парад маладым . . . 46
Не з таго канца . . . 47
Чужымі клёцкамі . . . 48
Хаценне . . . 49
Самаеды . . . 50
Груганы . . . 52
Залатар . . . 55
Лоб адвыкае біць паклоны . . . 56
Поўнач, трыццаць сёмы... . . . 58
Узаемаабарона . . . 59
Манекены . . . 60
Паветраны шар . . . 61

Рыгор Иванович БОРОДУЛИН

БЕРВЕНИЗАЦИЯ

Рэдактар Валянцін БЛАКІТ (В. У. БОЛТАЧ).

Тэхрэдактар Г. В. АФАНАСЬЕВА. Карэктар Н. І. КУКІНА.

Здадзена ў вытворчасць 6.07.88. Падпісана да друку 18.08.88. Фармат $70 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друкарская № 2. Новагазетная гарнітура. Друк высокі. Ум. друк. арк. 2,8. Ум.-фарб. адбіткаў 3,05. Ул.-выд. арк. 2,0. Тыраж 24 217 экз. Заказ 1061. Цана 10 кап.

Адрас рэдакцыі:
220041, Мінск, Ленінскі праспект, 77.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга

друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі,
220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.